# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік і выдавец Павел Жук
Наклад 90.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

18 кастрычніка 1996 г. № 79 Кошт свабодны

# Сёння адкрываецца Нацыянальны кангрэс у абарону Канстытуцыі – супраць дыктатуры

*Заўтра, 19 кастрычніка, удзельнікі мітынга збіраюцца ў 10:30 на плошчы Я.Коласа. Шэсце не дазволена*

## Шахцёраў спыняюць

**У сераду, 16 кастрычніка, у 7 гадзін раніцы каля 50 актывістаў Незалежнага прафсаюза — шахцёры, хімікі, энергетыкі — выйшлі з Салігорска на Мінск.**

Яны збіраліся за тры дні адолець пешшу 137 км, каб трапіць у суботу ў сталіцу і ўзяць удзел у мітынгу супраць дыктатуры. «Паломнікі» рухаліся паасобку на адлегласці адзін ад аднаго прыкладна 200—400 метраў. Яны адрозніваліся ад звычайных пешаходаў хіба тым, што неслі на сабе плакаты з лозунгамі: *«Прэзідэнт! Менш словаў, а больш працы і хлеба»*, *«Пенсіянерам — не дапамогу на выміранне, а пенсіі»*, *«На заводы — новыя тэхналогіі, а не новыя камісіі кантралёраў»* і інш.

Але не паспелі ўдзельнікі акцыі прайсці і некалькі кіламетраў, як на дарозе з'явілася міліцыя. Машына прыпынялася каля хадакоў, выскоквалі амонаўцы, хапалі людзей і сілай валаклі ў «варанок». Такім чынам было затрымана 10 чалавек, у тым ліку старшыня Незалежнага прафсаюза гарнякоў Віктар Бабаед, ягоны намеснік М.Зімін, а таксама прафсаюзныя актывісты А.Доўнар, А.Каралёў і інш. Астатнія ўдзельнікі, убачыўшы, як дзейнічае міліцыя, часова «сышлі з дыстанцыі».

Кіраваў аперацыяй шэф Салігорскага РАУС маёр А.Нізкі, а нібыта кантраляваў яе асабіста міністр унутраных справаў В.Агалец.

На затрыманых міліцыя склала пратаколы і адразу адвезла ў суд. Салігорскія суддзі Мітрафанаў і Трафімовіч аператыўна вынеслі свае прысуды. Восем удзельнікаў акцыі атрымалі штрафы ў памеры ад 100 да 300 тыс. рублёў за «парушэнне ўстаноўленага парадку шэсцяў і дэманстрацый». Два прафсаюзныя актывісты, юрысты па адукацыі, змаглі сябе абараніць у судзе. Іх справы будуць разглядацца на наступным тыдні.

Тым не менш пакаранні не спалохалі прафсаюзных актывістаў. Як заявіў карэспандэнту СВАБОДЫ намеснік старшыні Салігорскай прафсаюзнай арганізацыі транспартнікаў Мікалай Дзялендзік, пасля суда яны зноў падаліся ў дарогу. За імі рушылі астатнія.

У другой палове дня ўжо каля Слуцка іх (сем чалавек) зноў затрымалі. Паўтарылася тое самае: міліцыя склала пратаколы і перадала ў суд. Але раніцай 17 кастрычніка ў разглядзе справы было адмоўлена.

У тэлефоннай размове з карэспандэнтам СВАБОДЫ суддзя Аляксандр Галезнік заявіў, што затрыманыя ўжо панеслі пакаранне за адпаведнае парушэнне. *«Другі раз нельга выносіць рашэнне за тое самае»*, — патлумачыў А.Галезнік.

Салігорскія «паломнікі» зноў пайшлі на Мінск. На час падпісання нумара ў друк новых паведамленняў у рэдакцыю не паступала.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

## Генерал Тарлецкі абяцае, што правакацый не будзе

*«Калі сітуацыя 19 кастрычніка выйдзе з-пад кантролю, калі будуць дапушчаныя масавыя парушэнні грамадскага парадку, то мы прыцягнем усе наяўныя ў нас сілы, каб іх спыніць».*

Менавіта так заявіў шэф мінскай міліцыі Барыс Тарлецкі на прэс-канферэнцыі 16 кастрычніка, гаворачы пра магчымае развіццё падзей у гэтую суботу.

Як вядома, заўтра ў 10:30 на сталічнай плошчы Якуба Коласа пачнуць збірацца актывісты 25 палітычных партый Беларусі, каб накіравацца да Опернага тэатра, дзе адбудзецца мітынг у абарону Канстытуцыі.

Разам з тым генерал Тарлецкі запэўніў журналістаў, што ён зробіць усё магчымае, каб *«не дапусціць з боку міліцыі якіх-небудзь правакацый, накіраваных на бойкі з мітынгоўшчыкамі»*.

Аднак калі спецназ усё ж кінецца на дэманстрантаў, як гэта ўжо не раз было, то ў міліцыі ўзнікнуць праблемы: куды саджаць людзей? Па словах Б.Тарлецкага, мінскі следчы ізалятар на вул. Валадарскага перапоўнены крымінальнымі злачынцамі.

Тым часам нам стала вядома, што ў чацвер у санаторыі «Крыніца», што каля Мінска, пасялілі прыкладна 300 амонаўцаў з Гродзенскай вобласці. Для іх спецыяльна вызвалілі цэлы корпус, дзе адпачывалі людзі па пуцёўках. Усю гэтую каманду прывезлі на 10 аўтобусах. Экіпіраваныя байцы па-баявому: каскі, дубінкі, шчыты і інш. Прыбывае таксама АМОН і спецназ з іншых абласцей.

**В.В.**

## Ю.Малумаў: Мы гатовыя былі біць, біць, біць...

**Апошнія некалькі дзён намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Юры Малумаў нагнятае істэрыю вакол падзеяў 19 кастрычніка.**

Нагадаем, што Малумаў яшчэ на мінулым тыдні падаў у адстаўку са сваёй пасады, але яго просьбу падтрымалі толькі 29 дэпутатаў. Пасля гэтага прадстаўнік прапрэзідэнцкай фракцыі «Згода» ў кіраўніцтве Вярхоўнага Савета ўзяў на сябе небяспечную ролю Касандры, прарочачы на гэтую суботу «крывавыя» падзеі.

*«19 кастрычніка падчас правядзення санкцыянаваных мерапрыемстваў будуць арганізаваны масавыя беспарадкі. Хто будзе адказным за іх? У такіх справах разабрацца практычна заўсёды немагчыма*, — з загадкавай інфармаванасцю паведаміў Малумаў. — *Я не паверу ніводнаму з арганізатараў, якім бы вопытам міліцэйскай працы, вопытам арганізацыі мітынгаў ён ні валодаў, калі ён гарантуе, што ўсё пройдзе нармальна».*

Далей Малумаў успомніў эпізод са свайго жыцця, калі 6 гадоў таму яго, оперупаўнаважанага, *«апранулі ў форму, далі дубінку і выставілі ў ачапленне вакол будынка міністэрства, калі побач праходзіла шматлікая дэманстрацыя. І я, і мае сябры, і кіраўніцтва міністэрства ведалі, што мы ніколі не скарыстаем дубінкі супраць грамадзян. З гэтым пачуццём мы выйшлі туды, але 15 хвілін кантактаў з натоўпам — і нашы погляды кардынальна змяніліся. Мы гатовыя былі біць, біць, біць...»*

Як высветлілася, усе гэтыя гарачыя, эмацыянальныя прамовы мелі на мэце адно: чарговы раз заклікаць парламент памяняць сваё рашэнне і прызначыць рэферэндум на 7 лістапада. Відавочна таксама, што сваімі неаднаразовымі пагражальнымі заявамі Малумаў імкнецца застрашыць людзей і пераканаць іх не выходзіць на вуліцы 19 кастрычніка.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

## Нота паслоў Еўрасаюза

**Прэзідэнт Лукашэнка атрымаў сур'ёзнае папярэджанне ад Еўрапейскага Саюза.**

У мінулы аўторак (15 кастрычніка) паслы краін Еўрапейскага Саюза, акрэдытаваныя ў нашай краіне, перадалі беларускаму МЗС ноту, у якой выказалі *«глыбокую занепакоенасць пагаршэннем палітычнай сітуацыі ў Беларусі»*. Але раздабыць поўны тэкст заявы паслоў аказалася не так проста, паколькі нашае міністэрства замежных справаў узяло за моду хаваць падобныя рэчы ад журналістаў. І ўсё ж неафіцыйным чынам нам удалося атрымаць тэкст ноты, якую падпісалі паслы чатырох краінаў — Вялікабрытаніі, Італіі, Францыі, Германіі.

У ноце адназначна заяўлена, што для того, *«каб вынікі рэферэндуму былі прызнаныя ўнутры Беларусі і за яе межамі, неабходна захоўваць канстытуцыйнасць працэдураў рэферэндуму»*. Акрамя таго Еўрапейскі Саюз лічыць, што *«плебісцыт павінен быць праведзены толькі пасля поўнага і адкрытага абмеркавання, у якім змогуць удзельнічаць усе зацікаўленыя бакі, пры свабодным асвятленні прэсай і сродкамі масавай інфармацыі»*.

У ноце таксама падкрэсліваецца: *«Любыя не прадугледжаныя Канстытуцыяй працэдуры, уключаючы народныя сходы, і іншыя спробы падарваць ці перашкодзіць працы парламента альбо абмежаваць ягоную дзеяздольнасць будуць лічыцца несумяшчальнымі з еўрапейскімі дэмакратычнымі прынцыпамі»*.

Разам з тым Еўрасаюз палічыў патрэбным нагадаць, што *«любая новая канстытуцыя павінна адпавядаць міжнародным нормам (падзел улады, сістэма стрымлівання і процівагі), захоўваць прэрагатыву Канстытуцыйнага суда і парламента, гарантаваць свабоду слова і прэсы»*. *«У адваротным выпадку верагоднасць Беларусі стаць членам Савета Еўропы істотна зменшыцца»*, — падкрэсліваецца ў ноце. Адначасова паслы заявілі, што ЕС будзе гатовы аказаць дапамогу Беларусі ў выпадку, калі пераканаецца ў прыхільнасці беларускіх уладаў курсу дэмакратыі і дэмакратычных рэформаў.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

## Вертыкальны рэферэндум

**Як стала вядома СВАБОДЗЕ, гэтымі днямі вертыкальшчыкам былі спушчаныя ўстаноўкі наконт патрэбных вынікаў рэферэндуму.**

Кожнаму мясцоваму кіраўніку недвухсэнсоўна заявілі: «прайграеш рэферэндум — развітаешся з пасадай». Для ўсіх раёнаў і абласцей Беларусі незалежна ад спецыфікі загадана забяспечыць наступныя лічбы: удзел у рэферэндуме — 75-80%, галасоў за лукашэнкаўскія прапановы — 80%. Толькі ў Мінску дазволена выдаць больш рэальныя лічбы: удзел — 80%, «за» — 60%.

Акрамя шырокага спектру прапагандысцка-агітацыйных метадаў, не меншая ўвага надаецца і «тэхнічным сродкам забеспячэння». Мясцовыя ўлады распачалі ціск на тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі, каб тыя карэктавалі спісы выбаршчыкаў. Робіцца гэта наступным чынам: грамадзяне, якія звычайна не ходзяць на выбары і рэферэндумы, выкрэсліваюцца са спісаў. Такім чынам штучна ўзвышаецца працэнт будучай яўкі на рэферэндум.

**Алесь ГАНКОВІЧ**

*На здымку: «За Лукашэнкам — у светлую будучыню!».*
*Прыхільнікі прэзідэнта гатовыя паверыць свайму куміру яшчэ раз.*



## Чарговая «змова ЦРУ»

**На гэтым тыдні беларуская і расійская грамадскасць даведалася яшчэ пра адну «акцыю ЦРУ», накіраваную супраць расійска-беларускай інтэграцыі і галоўнага інтэгратара А.Лукашэнкі.**

Першым пра гэта паведаміў Жырыноўскі, які распаўсюдзіў у Дзярждуме спецыяльную заяву (цытуем): *«Базирующийся в Минске т.н. Национальный центр стратегических исследований Восток—Запад и московский Институт гуманитарных и политических исследований находятся на содержании ЦРУ США. Сегодня американские агенты этих центров пытаются стравить Белоруссию с Россией и с этой целью собрали т.н. «круглый стол»*.

У чым не памыліўся Вольфавіч, дык гэта ў тым, што 14 кастрычніка ў Маскве названыя ім цэнтры сапраўды арганізавалі «круглы стол», на які запрасілі беларускіх і расійскіх палітыкаў і аналітыкаў, каб абмеркаваць актуальную праблему: «Беларусь — Расія: стратэгія партнёрства». З беларускага боку ў «круглым стале» ўдзельнічалі дэпутаты ад пяці фракцыяў парламента на чале з першым намеснікам спікера Васілём Новікавым, а таксама група аналітыкаў. Аналагічным было прадстаўніцтва з расійскага боку. Праўда, на некаторых расійскіх дэпутатаў, відаць, паўплывала заява Жырыноўскага і яны не з'явіліся на «круглы стол», спаслаўшыся на неабходнасць удзельнічаць у закрытых парламенцкіх слуханнях па Чачні.

Але абараняць Лукашэнку ад «агентаў ЦРУ» было каму і з расійскага, і з беларускага боку. Сярод мінскіх гасцей гэтым асабліва вызначаўся на «круглым стале» Іван Антановіч (намеснік міністра замежных справаў). Ягоная аргументацыя зводзілася да вядомых прапагандысцкіх клішэ, распрацаваных ведамствам палкоўніка Замяталіна: маўляў, Захад і ягоныя агенты хочуць адарваць Беларусь ад Расіі, а таму і травяць вернага Маскве інтэгратара Лукашэнку. Антановіч у чарговы раз палохаў расіянаў магчымасцю ўтварэння Балтыйска-Чарнаморскай Садружнасці. *«Раней ідэю такога саюзу прапагандавалі толькі БНФ і ўкраінскі Рух, а цяпер яна ўжо загучала з вуснаў Кучмы»*, — заявіў Антановіч.

Зрэшты, маскоўскія палітыкі і аналітыкі без дапамогі мінскіх іваніванычаў выдатна разумеюць расійскія інтарэсы. *«Так, нам патрэбна Беларусь»*, — гаварылі яны. *«Але мы зацікаўленыя, каб у вашай краіне была дэмакратычная сістэма, а не аўтарытарны рэжым»*, — падкрэсліў дырэктар Расійскага інстытута стратэгічных даследванняў Яўген Кажокін. Дарэчы, ён належыць да той групы маскоўскіх аналітыкаў, рэкамендацыі якіх кладуцца на стол гаспадарам Крамля. Сёння рэальнасць такая, што ад пазіцыі расійскага кіраўніцтва ў многім будзе залежаць лёс парасткаў дэмакратыі ў Беларусі.

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**

## Маскоўскі туман

**Вечарам у сераду прэзідэнт Лукашэнка правёў у Маскве прэс-канферэнцыю для расійскіх і замежных карэспандэнтаў.**

Іх сабралася дзесяткі два. Паабяцаўшы ва ўступным слове «не лукавить» перад аўдыторыяй, прэзідэнт праз некалькі хвілінаў «забыўся» пра сваё абяцанне. За 45 мінут журналісты так і не даведаліся ад Лукашэнкі, чым у сапраўднасці быў выкліканы ягоны нечаканы візіт у Маскву. Ні слова ён не сказаў і аб тым, што расійскія кіраўнікі сур'ёзна заклапочаныя ўнутрыпалітычнай абстаноўкай у Беларусі.

**Л.Ф.**

## Беларусь павінна адпавядаць еўрапейскім стандартам

**У сераду, 16 кастрычніка, завяршыўся двухдзённы афіцыйны візіт у Мінск прэзідэнта Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы Лені Фішэр.**

Паводле папярэдняй дамоўленасці пані Фішэр павінна была наведаць Беларусь 24—25 кастрычніка. Аднак беларускія дэпутаты (у першую чаргу Пётр Краўчанка) пераканалі яе прыехаць напярэдадні паездкі 18—19 кастрычніка. Лені Фішэр неаднаразова падкрэслівала, што *«вялікую трывогу і занепакоенасць»* у Савеце Еўропы выклікае канстытуцыйны крызіс у нашай краіне, а таксама небяспека *«сацыяльнага расколу грамадства»*.

Лені Фішэр сустрэлася са спікерам Сямёнам Шарэцкім, кіраўніком прэзідэнцкай адміністрацыі Міхаілам Мясніковічам, старшынёю Канстытуцыйнага суда Валерыем Ціхінем, старшынёю Цэнтрвыбаркама Віктарам Ганчаром і іншымі афіцыйнымі асобамі. Перамовы з прэзідэнтам Лукашэнка, якія планаваліся раней, не адбыліся. У першы дзень візіту (15 кастрычніка) Рыгоравіч рыхтаваўся да футбольнага матча, а на другі паляцеў за парадамі ў Маскву.

Л.Фішэр паведаміла, што ў канцы кастрычніка Мінск наведаюць дакладчыкі ад Савета Еўропы, якія дадуць ацэнку дэмакратычным працэсам у нашай краіне. Як сказала Лені Фішэр, *«сістэма і ўстановы Беларусі павінны адпавядаць стандартам, якія прад'яўляе Савет Еўропы»*.

Выступаючы ў беларускім парламенце, Л.Фішэр выказала сваё меркаванне наконт унутрыпалітычнай сітуацыі ў Беларусі. Яна лічыць, што дзеянні прэзідэнта любой краіны павінны быць накіраваныя не на раскол грамадства, а на захаванне адзінства ў дзяржаве, кіраўнік краіны павінен знаходзіць кампраміс з іншымі палітычнымі сіламі. *«Не трэба спяшацца прызначаць нейкую дату для правядзення рэферэндуму, а пакуль весці дыскусіі і шукаць разумныя рашэнні»*, — лічыць Л.Фішэр.

На прэс-канферэнцыі Лені Фішэр сказала, што *«Беларусь можа стаць членам Савета Еўропы з Канстытуцыяй 1994 года. А цяпер не той час, каб уносіць змены, улічваючы цяжкае эканамічнае становішча і сацыяльную напружанасць»*. Па словах пані Фішэр, прыём краіны ў Савет Еўропы ў вялікай ступені залежыць ад свабоды сродкаў масавай інфармацыі, доступу да іх розных палітычных партый. *«Неабавязкова запісваць у Канстытуцыю, што спікер парламента можа выступаць па тэлебачанні перад народам*, — сказала Лені Фішэр. — *Гэта само сабой разумеецца»*.

Лені Фішэр запрасіла Сямёна Шарэцкага наведаць Страсбург у студзені будучага года і выступіць на Парламенцкай асамблеі (а гэта каля 500 прадстаўнікоў ад 40 краінаў).

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Coca-Cola пашыраецца

**Сёння ля Мінска (паварот з кальцавой дарогі на Калядзічы) адбудзецца цырымонія пачатку будаўніцтва вытворча-дыстрыбутарскага цэнтра сумеснага прадпрыемства *Coca-Cola Amatil Belorussiya*.**

На 20 гектарах размесцяцца складскія і вытворчыя памяшканні (плошчай 20.000 кв.м.), а таксама адміністрацыйны будынак. Будаўніцтва плануецца завяршыць восенню 1997 года.

Сучасны вытворча-дыстрыбутарскі цэнтр спатрэбіўся, бо ў Беларусі ўвесь час расце попыт на безалкагольныя напоі «Кока-кола», «Фанта», «Спрайт» і «БонАква», нягледзячы на тое, што газаваныя напоі гэтай фірмы даволі дарагія. Апошнія два гады *Coca-Cola* намагалася стварыць інфраструктуру збыту; цяпер кампанія мае 8 складаў і 7 цэнтраў продажу ва ўсіх абласцях нашай краіны. У кожнай абласной філіі занятыя 20-30 мясцовых спецыялістаў.

Усяго на сумесным прадпрыемстве працуе 350 чалавек. Новаму вытворча-дыстрыбутарскаму цэнтру спатрэбяцца яшчэ 150 работнікаў. Можна меркаваць, што ў беларускай эканоміцы з'явяцца дадатковыя рабочыя месцы — у 10 разоў больш за колькасць непасрэдных супрацоўнікаў *Coca-Cola Amatil*. Гэта азначае, што *Coca-Cola* можа даць работу 5 тысячам чалавек у вытворчасці шкла, пластыку, цукру, кіроўцам грузавых аўтамабіляў, прадаўцам і рэкламным агентам.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Юрыст, якога свет не бачыў

**У сераду, 15 кастрычніка Канстытуцыйны суд разглядаў сумнавядомы ўказ аб «прыхватызацыі» прэзідэнтам «Народнай газеты». Героем дня стаў адзін з прэзідэнцкіх юрыстаў.**



*На здымку: злева — парламенцкая «тройка», справа — прэзідэнцкая (герой дня А.Пласкавіцкі — крайні справа).*

Судовае паседжанне пачалося з таго, што прэзідэнцкі бок вуснамі А.Пласкавіцкага (намесніка начальніка юрыдычнага ўпраўлення адміністрацыі) заявіў ажно 7 (!) хадайніцтваў, абсалютна розных па змесце, але аднолькавых па мэце: адкласці разгляд справы на няпэўны тэрмін. Найбольш цікавым было першае хадайніцтва: аказваецца, Вярхоўны Савет нібыта парушыў працэдуру абрання свайго старшыні — таму, маўляў, С.Шарэцкі не з'яўляецца старшынёю ВС, а значыць, Канстытуцыйны суд не павінен разглядаць ініцыяваную ім справу. Пасля нарады КС паслядоўна адхіліў усе хадайніцтвы, і праца пачалася.

Даклад па справе зрабіў суддзя М.Пастухоў. У якасці спецыяліста заслухалі адваката Н.Доўнар.

Апафеозам паседжання стала прамова прэзідэнцкага юрыста А.Пласкавіцкага. Першая яго думка, выказаная даволі шматслоўна, папросту зводзілася да таго, што калі КС палічыць, што прэзідэнт згодна з дзеючай Канстытуцыяй не мае права камандаваць усім у краіне, дык гэта толькі дакажа неабходнасць унясення змяненняў у Канстытуцыю. Што ж, прынамсі, шчыра. І трэба прызнаць, што выступленне А.Пласкавіцкага было, ва ўсялякім выпадку, паслядоўным і даволі паказальным не толькі ў дачыненні **да «Народнай газеты», але і ўвогуле** ў плане таго, якога кшталту дзяржаву робяць з Беларусі прэзідэнт і ягоная каманда.

Напрыклад, А.Пласкавіцкі выказаў сваё разуменне свабоды прэсы, пераканана заявіўшы, што ў гэтай сферы *«за кошт дзяржаўнай сілы»* павінна ажыццяўляцца *«дзяржаўнае рэгуляванне»*. Пры гэтым ён паскардзіўся, што *«вельмі цяжка кіраваць СМІ, вельмі цяжка накіроўваць іх туды, куды трэба»*.

Адказваючы на пытанне суддзі В.Фадзеева, у чыю ж кампетэнцыю ўваходзіць прызначэнне дырэктара акцыянернага таварыства, А.Пласкавіцкі з рафінаванай дэмагагічнасцю сказаў, што *«згодна з законам, прызначэнне дырэктара павінна ажыццяўляцца сходам акцыянераў, але ёсць адзін аспект: а хто можа загадаць гэтаму сходу акцыянераў прызначыць канкрэтнага чалавека дырэктарам? Я лічу, кіраўнік дзяржавы можа»*. Вось такім чынам складзены і ўвесь лукашэнкаўскі праект канстытуцыі, менавіта гэтак праводзіцца там падзел уладаў: усе нібыта маюць правы — але ўсімі камандуе прэзідэнт.

Што ж тычыцца «Народнай газеты», дык А.Пласкавіцкі заявіў, што прэзідэнт не можа несці адказнасці за парушэнне заканадаўства, паколькі праводзіць **«рэарганізацыю»** не сам, а даручае гэта сваім падначаленым (відаць, прэзідэнт парушыць закон толькі ў тым выпадку, калі сам сядзе ў рэдактарскае крэсла). І яшчэ: калі на «Народнай газеце» пішуць, што яна з'яўляецца парламенцкім, а не прэзідэнцкім органам, дык прэзідэнт, аказваецца, дзейнічае... *«у інтарэсах Вярхоўнага Савета»*. Напэўна, Вярхоўны Савет павінен быў бы б падзякаваць прэзідэнту за ягоную дабрыню. Сапраўды, як гавораць, «барані Бог ад сяброў...»

А.Пласкавіцкі дагаварыўся да таго, што назваў захоп «НГ»... дэманапалізацыяй. Калі яго папрасілі патлумачыць, што ён мае на ўвазе, дык у адказ пачулі пасаж, які варта прывесці даслоўна і на мове арыгінала: *«С моей точки зрения, монополизация и демонополизация — это неравнозначные понятия* (рэпліка суддзі У.Фадзеева — «это уж точно»). *Можно монополизировать, и обратный процесс будет демонополизацией, но можно без наличия монополии, без предварительной монополизации произвести демонополизацию, т.е. упразднить некую монополию. В данном случае была, безусловно, монополия государства на одно отдельно взятое средство массовой информации. При этом средства массовой информации в целом, конечно же, не были монополизированы, и само это средство никогда не монополизировалось, но тем не менее, монопольное право на это средство принадлежало исключительно государству. В данном случае сделан первый и решительный принципиальный шаг на пути к демонополизации данного конкретного средства, этот первый шаг сделан, за ним последуют соответствующие другие шаги конкретных государственных органов»*.

Ясна, чаму А.Пласкавіцкі не прызнае манаполіі на СМІ ў нашай краіне: яны манапалізаваныя якраз выканаўчай уладай. Я не ведаю, ці ўвойдзе А.Пласкавіцкі ў падручнікі (якія будуць выдавацца пры цяперашнім прэзідэнце) як аўтар навуковай тэорыі, згодна з якой манаполію можна скасаваць без наяўнасці манаполіі. Яшчэ няблага было б удакладніць, якім чынам можна дэманапалізаваць адзін (!) сродак масавай інфармацыі. Невядома таксама, ці прэтэндуе А.Пласкавіцкі на ўвядзенне сваёй трактоўкі паняцця «дэманапалізацыя» ў тлумачальныя і энцыклапедычныя слоўнікі, — але тое, што ён прэтэндаваў пераканаць у гэтым Канстытуцыйны суд — то дакладна.

Вось гэткай была аргументацыя прэзідэнцкага боку на працэсе. На самой справе методыка не такая ж самая, як і методыка аргументацыі, уласцівая самому прэзідэнту — толькі юрысты апранаюць яе ў казуістычныя псеўдаправавыя фармулёўкі, але сутнасць ад гэтага не змяняецца. І там, і там — дэмагогія і спроба прыкрыць гучнымі фразамі поўную бязглуздзіцу.

17 кастрычніка разгляд справы працягваўся.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

## Абрамовіч пасылае ганцоў

**Ва ўсе вобласці і буйныя гарады нашай краіны дзеля ідэалагічнага забеспячэння рэферэндуму выедуць «ударныя групы».**

Сабраўшы ў сераду, 16 кастрычніка, спецыяльны семінар з гэтай нагоды, намеснік кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі А.Абрамовіч даваў установкі, як і што трэба тлумачыць людзям. Аднак складваецца ўражанне, што «агітатары» самі не ведаюць, што значыць усе гэтыя палітычныя гульні. Словы пра тое, што рэферэндум патрэбны, каб прэзідэнт меў магчымасць зімой забяспечыць кацельні палівам, а ўвесну паспяхова правесці сяўбу, — з вуснаў дыпламаванага юрыста Абрамовіча гучалі па меншай меры дзіўна. І яшчэ адзін момант: калі, напрыклад, віцэ-прэм'ер В.Далгалёў паедзе агітаваць у Жодзіна, а міністр інвестыцый В.Дрозд накіруецца ў Гомель, то за якія грошы і хто будзе выконваць іхнія абавязкі? Ці яны на гэты час возьмуць адпачынак за свой кошт?

**М.Н.**

## Кампартыя «размнажаецца»

**2 лістапада ў Мінску пройдзе першы (ён жа 33-ці) з'езд КПБ.**

Раскол у Партыі камуністаў беларускай, пра які так многа гаварылася, адбыўся. 16 кастрычніка на спецыяльнай прэс-канферэнцыі былы сакратар ЦК ПКБ Віктар Чыкін не без гонару паведаміў, што 2 лістапада ў Мінску пройдзе першы (33-ці) з'езд Камуністычнай партыі Беларусі. Такое рашэнне прынята на першым паседжанні аргкамітэта, на чале якога стаіць той жа Віктар Чыкін.

Зварот пад паэтычным загалоўкам «Узнаўленне КПБ — гэта наш маральны і палітычны выбар» падпісала больш за 50 чалавек. Сярод іх пераважна вядомыя асобы: дарадца прэзідэнта Сяргей Посахаў, намеснік старшыні ДСПС Леанід Школьнікаў, галоўны рэдактар газеты «Белоруссия» Ігар Асінскі, дэпутат Вярхоўнага Савета Уладзімір Плецюхоў, акцёр Мікалай Яроменка-старшы, сам В.Чыкін. Усе яны ў свой час прайшлі школу цяперашняй кампартыі, але прыйшліся ў ёй так і не змаглі. Па сутнасці, усю аргументацыю свайго рашэння ўдзельнікі прэс-канферэнцыі пабудавалі на адмаўленні пазіцыі ПКБ у адносінах да прэзідэнта Лукашэнкі ды на абвінавачаннях у адрас яе кіраўнікоў Сяргея Калякіна і Васіля Новікава. Апошнія сваім удзелам у «круглым стале» нібыта занялі пазіцыю *«нацыянальнага камунізму»*, а таксама перапынілі кампартыю ў *«інструмент ажыццяўлення ўласных кар'ерысцкіх памкненняў»*. Як бачым, нічога новага «новыя старыя камуністы» не прыдумалі.

Фактычна, нягледзячы на некаторыя рэверансы В.Чыкіна (*«у нас есть значительные расхождения с президентом»*), ствараецца прапрэзідэнцкая партыя. Нездарма і першы з'езд прызначаны на 2 лістапада (*«свою позицию надо заявить открыто и до всенародного голосования»*). Зрэшты, Чыкін быў шчыры: *«Лично меня не устраивает ни действующая Конституция, ни два внесенных проекта... Но я буду голосовать за президентский проект — из двух зол выбирают меньшее»*. Відаць, лічыць да трох камуністы так і не навучыліся.

**Раман ЮРЭВІЧ**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## Дэлегатаў вучылі крычаць «ура хазяіну»

**Напярэдадні «усебеларускага» сходу па ўсёй краіне прайшлі «куставыя» — нарады дэлегатаў асобных раёнаў, дзе вертыкальшчыкі вучылі, як трэба будзе галасаваць у сталіцы.**

Карэспандэнт СВАБОДЫ пабываў на адной такой нарадзе — у Гродне. Мерапрыемства відавочна нагадвала рэпетыцыю сталічнага сходу, на якой ролю прэзідэнта выконваў кіраўнік абласной вертыкалі А.Дубко.

Раней чалавек спакойны і як быццам не зласлівы, сп. Дубко цяпер паказаў сябе старанным вучнем А.Лукашэнкі. Расхваліўшы самога прэзідэнта, ён па-пракурорску пачаў ганіць ягоных праціўнікаў. Маўляў, у нас развялася процьма палітыкаў і партый, якія хлебам не кармі, а дай пазаймацца «палітыканствам». Не інакш перайманчы вядомы літаратурны маналог Тараса Бульбы («Я цябе парадзіў — я цябе і заб'ю»), сп. Дубко з трагізмам у голасе паведаміў, што на Гродзеншчыне *«ў сябе дома мы выгадавалі палітыкаў, якія больш за ўсіх крытыкуюць нашае грамадства»*. Хто ж гэтыя «дысідэнты»? Усё вядомыя асобы — С.Шарэцкі, М.Грыб, С.Домаш, М.Гірuць.

Сабраныя на рэпетыцыю дэлегаты як мае быць падтрымалі патрэбны тон размовы. Першы з іх К.Алёхін (дырэктар дома культуры), напрыклад, расказаў, што быў у Іраку, дзе заробкі ўсяго 2-3 долары, але затое народ усёй душой падтрымлівае свайго Садама Хусэйна. Маўляў, так і нам трэба. Гэта, праўда, выклікала смех у дэлегатаў, большасць з якіх усё ж маюць вышэйшую адукацыю і крыху разбіраюцца ў міжнародных падзеях. Гэты ж прамоўца заклікаў правесці рэферэндум у дзень кастрычніцкай рэвалюцыі, сказаўшы, што «хай і ў нас будзе рэвалюцыйны дзень». Старшыня сельсавета з Ваўкавыскага раёна Г.Васільчук, напэўна, была пад уражаннем нядаўняга тэлесерыяла пра Сталіна, якога ўсе са страху называлі «хозяином». Яна сцвердзіла, што наш народ выбраў сабе прэзідэнта як «хазяіна», без якога ў хаце не будзе парадку. Заатэхнік з калгаса імя Леніна Зэльвенскага раёна В.Атаповіч нейкім дзіўным чынам здолеў у сваім выступе звязаць прэзідэнцкую канстытуцыю з павышэннем прыбытку буйной рагатай жывёлы. Вось такая была рэпетыцыя.

Дэлегаты, як ім было сказана, прагаласавалі за «рэвалюцыю» — каб рэферэндум быў 7 лістапада. Слова супраць ніхто не сказаў. Праўда, нехта з прысутных пацікавіўся, ці можна будзе выступіць на сходзе ў Мінску. Яму далі зразумець, што гэта малаверагодна, хоць мерапрыемства будзе працягвацца два дні. Але ясна, што будучыя прамоўцы даўно падабраныя прэзідэнцкай адміністрацыяй, а ад усіх астатніх дэлегатаў патрабуецца ў сталіцы толькі стварэнне масавасці ды «музычнага фону» — апладысментаў і воклічаў «Ура хазяіну!»

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# О захвате власти

Уважаемая редакция!

Считаю, что всем участвующим в политических интригах следует обратить особое внимание на статью $61^1$ Уголовного кодекса Республики Беларусь «Заговор с целью захвата государственной власти».

Цитирую:

*«Заговор с целью захвата государственной власти неконституционным путем — наказывается лишением свободы на срок от восьми до двенадцати лет с конфискацией имущества или без конфискации.*

*Захват государственной власти неконституционным путем — наказывается лишением свободы на срок от десяти до пятнадцати лет с конфискацией имущества или без конфискации.*

*Действия, предусмотренные частями первой или второй настоящей статьи, повлекшие гибель людей, — наказываются лишением свободы на срок от двенадцати до пятнадцати лет с конфискацией имущества или без конфискации либо смертной казнью с конфискацией имущества или без конфискации».*

Заметим, что под заговором с целью захвата государственной власти понимается сговор (соглашение) двух или более лиц о совместных действиях по захвату государственной власти Республики Беларусь в обход порядка ее замены, установленного Конституцией Республики Беларусь. Уголовный кодекс РБ относит заговор с целью захвата государственной власти к особо опасным государственным преступлениям.

Рассмотрим один из возможных случаев заговора с целью захвата власти Верховного Совета.

В соответствии со статьей 83 Конституции Республики Беларусь Верховный Совет Республики Беларусь назначает республиканские референдумы. Ни одна статья Конституции РБ не предусматривает возможности назначения республиканского референдума иным органом. Таким образом, назначение республиканских референдумов является исключительным правом Верховного Совета. ВС назначил республиканский референдум на 24 ноября 1996 г. и утвердил перечень вопросов, выносимых на республиканский референдум. Действия отдельных лиц *по созданию иных органов* (например — некоего общебелорусского собрания), которые должны назначить республиканский референдум или изменить его дату, по моему мнению, могут квалифицироваться по части 1 статьи $61^1$ УК РБ.

В случае, если каким-либо органом, за исключением Верховного Совета Республики Беларусь, *будет принято решение* о назначении республиканского референдума или об изменении его даты, то данные действия могут квалифицироваться как действия, предусмотренные частями 2 и 3 статьи $61^1$, и участники таких органов могут быть привлечены к уголовной ответственности.

Статья 81 Конституции Республики Беларусь гласит: «Срок полномочий Верховного Совета — пять лет. Полномочия Верховного Совета могут быть досрочно прекращены по постановлению Верховного Совета, принятому большинством не менее двух третей от избранных депутатов».

Хотелось бы отметить, что вопрос о праве президента распускать Верховный Совет выносился только на консультационный референдум. Таким образом, действия любых лиц, направленные на *досрочное прекращение полномочий Верховного Совета,* могут квалифицироваться по соответствующей части статьи $61^1$ УК РБ.

Преступление, предусмотренное частью первой статьи $61^1$ УК РБ, считается оконченным с момента сговора соучастников на осуществление деятельности по захвату государственной власти неконституционным путем. Преступление, предусмотренное частями второй и третьей статьи $61^1$, считается оконченным с момента захвата государственной власти незаконным путем, т.е. *с того момента, когда виновные противоправно объявили себя представителями государственной власти* Республики Беларусь.

Хотелось бы обратиться к участникам различных конгрессов и собраний — по своему неведению вы можете совершить особо опасное государственное преступление. Будьте осторожны!

**Сергей БАЛЫКИН,**
*член Объединенной гражданской партии*

# Ці прагучыць над Беларуссю залп «Аўроры»?

Пытанне «Ты за бальшавікоў або за камуністаў?», якое задавалася Чапаеву ў знакамітым фільме дзеля камедыйнага эфекту, у сучаснай Беларусі ставіцца на поўным сур'ёзе. Бо прэзідэнт, ваюючы з камуністамі нібы той белагвардзейскі генерал, у сапраўднасці з'яўляецца бальшавіком. Пра гэта сведчыць ягоны намер зрабіць Другі кастрычніцкі пераварот. Дарэчы, «пераваротам» называлі сваю акцыю самі бальшавікі: пампезнае найменне «Вялікая кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя» з'явілася пазней, ужо за Сталіным.

Пытанне тых жа часоў «Ці магчыма пабудаваць сацыялізм у асобна ўзятай краіне?» для сённяшняй Беларусі вельмі надзённае — хіба што да слова «сацыялізм» дадаецца эпітэт «рынкавы». І будуем мы яго пад тым жа чырвоным сцягам і мудрым кіраўніцтвам правадыра.

Сапраўды, трагедыі ў гісторыі паўтараюцца ў выглядзе фарсу. Пераварот 7 лістапада 1917 г. быў трагедыяй. Мяркуемы пераварот 7 лістапада 1996 г. — фарс: А.Лукашэнка гатовы ўчыніць хоць сабе антыканстытуцыйны пераварот, але зрабіць 7 лістапада ўрачыстым святам незалежнай Беларусі. Пры гэтым, нягледзячы на фарсавасць такога развіцця падзеяў, — для нашай краіны яны могуць стаць не менш трагічнымі.

«Усебеларускі лукашэнкаўскі шабаш», які адбудзецца 19 кастрычніка, можа стацца залпам «Аўроры» ў беларускім варыянце. Ці паўторыцца ў карыкатурным выглядзе 17-ты год — залежыць ад грамадзян Беларусі. Трэба памятаць, што карыкатура бывае не менш жахлівай за арыгінал.

Ці ўдасца нам пераадолець дыктатуру ў зародку?

**Зміцер ЛІХТАРОВІЧ,** *г.Мінск*

# Пасольства нічога не ведае

Я, грамадзянка Рэспублікі Беларусь, жыву за мяжой, у Канадзе, і ніяк не адчуваю, каб беларускія дыпламатычныя місіі рыхтаваліся да выбараў і рефэрэндуму.

Я вырашыла патэлефанаваць у консульства Рэспублікі Беларусь у ЗША. Я размаўляла са спадаром Курбыкавым, які прадставіўся палітычным кансультантам консульства.

На маё пытанне, што там адбываецца па справе рэферэндуму і калі дакладна ён будзе праводзіцца, сп. Курбыкаў адказаў, што яны самі дакладна не ведаюць. І гэта ўсё нібыта з прычыны процістаяння розных палітычных груповак у Беларусі. Аб тым, якія будуць на рэферэндуме пытанні, Курбыкаў таксама не быў у стане (альбо не палічыў патрэбным) адказаць. Тады я запыталася, ці існуе магчымасць, што вынікі рэферэндуму будуць сфальсіфікаваныя, ён мяне запэўніў, што *«такой магчымасці няма і не можа быць».* Сп. Курбыкаў зрабіў заўвагу, што *«з 300 грамадзян РБ, што стаяць на ўліку ў іх консульстве, на апошніх выбарах галасавала толькі 30».* Ён таксама адзначыў, што ў іх німа ані сродкаў, ані падставаў ездзіць па ўсіх амерыканскіх штатах ды канадскіх правінцыях і збіраць галасы. А мажлівасць прагаласаваць будзе дадзеная кожнаму грамадзяніну РБ — *«усё залежыць ад нашай добрай волі».*

Вельмі цікава, — сказала я, — як жа гэта залежыць ад маёй добрай волі, калі мы не ведаем нічога пра рэферэндум? Трэба сама мала 48 гадзін, каб купіць білеты на самалёт і даляцець да Вашынгтона. Але мне патлумачылі, што гэта мае прыватныя праблемы, якія працаўнікоў консульства не датычацца.

Карацей кажучы, магчымасць фальсіфікацыі вынікаў рэферэндуму ёсць у тым сэнсе, што галасы супраць Лукашэнкі і яго рэжыму будуць папросту не ўлічаныя, бо грамадзяне Беларусі не ведаюць, калі і куды ісці галасаваць.

**Наталля ПЕТРУШКЕВІЧ,** *Канада*

# Султан и двадцать семь пашей

Уважаемая редакция!

Хочу предложить некоторые наблюдения над президентским проектом конституции.

Статья 80 определяет, что президентом может быть избран гражданин Республики Беларусь, по рождению не моложе 35 лет, обладающий избирательным правом и постоянно проживающий в Республике Беларусь не менее 10 лет непосредственно перед выборами.

Что касается слов «по рождению», то это юридический нонсенс, так как Республика Беларусь существует всего пять лет. Автор проекта явно сделал неуклюжую попытку разделить население республики на «тутэйшых» и «не тутэйшых». А согласно формулировке «не менее 10 лет перед выборами», скажем, посол Беларуси в Российской Федерации, приобретший огромные связи за годы работы в Москве, увы, не сможет баллотироваться в президенты.

Статьями 90-91 предусматривается, что парламент — национальное собрание — состоит из двух палат — Палаты представителей и Сената, причем Сенат является палатой территориального представительства: в него входят по 9 сенаторов от каждой области и города Минска.

Обратимся к европейскому опыту. В Европе в настоящее время насчитывается 43 независимых государства. Условно их можно разделить на три группы: страны с населением свыше 15 млн. чел.; страны с населением от 5 до 15 млн. чел.; страны с населением менее 5 млн. чел.

К 1-й группе относятся 9 государств: Россия, Германия, Италия, Великобритания, Франция, Украина, Испания, Польша, Румыния. Все эти крупные государства, за исключением Украины, имеют двухпалатный парламент.

Ко 2-й группе относятся 15 государств: Нидерланды, Венгрия, Греция, Португалия, Чехия, Беларусь, Югославия, Бельгия, Болгария, Швеция, Австрия, Швейцария, Словения, Дания и Финляндия. В подавляющем большинстве из них однопалатный парламент. Двухпалатный парламент по традиции сохранился лишь в странах, территории которых когда-то входили в состав Римской империи.

Следует отметить, что население в нашей стране компактно: в каждой области и столице живет от 1,2 до 1,6 млн.чел., т.е. разница в представительстве не настолько велика, чтобы поднимать вопрос о двухпалатном парламенте.

Помимо этого, Беларусь, в отличие, например, от России, не имеет опыта двухпалатного парламента, и от того, что нынешние депутаты разделятся на две группы, пользы будет мало — возрастут говорильня и бумаготворчество. А назначение президентом одной трети «сената» выглядит совсем уж атавизмом: в современном мире разве что шейхи и султаны назначают себе визирей.

Что касается предложений президента по роспуску парламента в случае двухкратного отклонения кандидатуры премьер-министра или вотума недоверия правительству, то мы не настолько богаты, чтобы часто проводить парламентские выборы.

Следует отметить, что Конституция Республики Беларусь 1994 г. не предусматривает такого понятия, как вотум недоверия правительству. Вместо этого имеется норма персональной ответственности министра за порученный участок работы (статья 107). Отсутствие такой положения в президентском проекте явно свидетельствует от стремлении исполнительной власти уйти от персональной ответственности.

Показательно также, что проект конституции А.Г.Лукашенко не предусматривает существования Высшего хозяйственного суда — яркое свидетельство того, что Лукашенко собирается полностью вернуться к командной экономике, которой хозяйственный суд не нужен. Следует заметить, что в России Арбитражный суд как был, так и есть.

В проекте конституции Лукашенко отсутвует положение о контрольной палате. Таким образом Лукашенко стремится избавить себя, свою администрацию, Кабинет министров от всякого контроля за расходованием бюджета республики.

И еще о российско-белорусской интеграции, которая составляет основу внешней политики нынешнего правительства. Если Конституция РБ 1994 г. весьма близка к российским стандартам демократии, то проект Лукашенко — это два шага назад в интеграции Беларуси и России. Вне сомнения, проект Лукашенко — это конституция диктаторского режима.

Поэтому призываю граждан Республики Беларусь голосовать против проекта конституции, выносимой президентом на референдум, — если он состоится в законно установленный Верховным Советом день.

**В.П.ЕНИЧ,** *г.Витебск*

## КАДРЫ

# Ахова маскіруецца







## РАДКІ З ЛІСТОЎ

Нешта не чуваць, які ж гэта нягоднік-злачынца страляў у Лукашэнку ў 1994 г. каля Лёзна... Дзе ж нашая доблесная і незлічоная міліцыя?

**С.П.КАСПЯРОВІЧ,** *г.Стоўбцы*

Президент Лукашенко был против привилегий и льгот, когда это касалось инвалидов труда третьей группы, пострадавших от сталинских репрессий и чернобыльцев, хотя государство бесконечно виновато перед этими людьми. Но он за привилегии для себя. Он заложил в своей конституции пожизненные привилегии и льготы для себя, правительства и своих сенаторов-депутатов, которые нигде не пострадали и ничего еще у народа не заслужили.

**Анна Ивановна ШЕНДЯК,** *г.Минск*

В этом году мы отмечали круглую дату — траурный юбилей Афганской войны, в которой погибло 3 тысячи белорусов. В их честь был воздвигнут памятник в городе Минске. В 1997 году — другая дата: исполняется 60 лет с тех пор, когда сталинский произвол и геноцид достиг своего пика.

Немногие оставшиеся в живых после лагерей и родственники погибших ожидают, что 1997 год будет признан годом памяти невинных жертв сталинских репрессий. Ведь это — наша история.

**А.С.СМИРНОВ,** *г.Могилев*

В России более 2-х последних лет шла война, на которую ежедневно уходили миллиарды рублей. Несмотря на это, там правительство за последний год увеличило в 2 раза пенсии старикам. А у нас, где нет войны, при ежедневном росте цен, за год увеличили пенсии аж на 8%! Курам на смех. О чем думают президент и правительство? Как у них еще хватает наглости занимать свои посты?

Закон о пенсиях у нас хорош, но чиновники в исполкомах его не выполняют. Ясно, что настоящую пенсию мы получим только тогда, когда исполнительная власть будет отчитываться перед Верховным Советом, когда президент и правительство скажут, куда они растранжирили наши деньги.

**И.ГУРИНОВИЧ,** *г.Минск*

## Субота 26 кастрычніка

**Белорусское телевидение**
8.00 Новости.
8.15 «Созвучие».
8.35 Сущность.
9.05 Судьба моя и надежда.
9.40 Здоровье.
10.10 Все про все.
10.35 Путешественник.
10.50 Многоголосие.
11.20 Олимп: от подножия к вершине.
11.40 «Око».
12.05 «Дыхание грозы». Х/ф.
14.25 Коллаж.
14.55 Творцы.
15.40 «Остров молодости нашей».
16.55 «История любви».
17.15 Пресс-импреза.
17.55 Белорусский дом.
18.35 Галерея.
19.05 V Международный фестиваль искусств «Славянский базар-96». Ч. 2.
20.40 Колыбельная.
21.00 Новости.
21.45 Музыкальный антракт.
21.55 С.Блатун. «Полынь бессмертия». Спект.
22.20 «Лев Толстой». С. 2.
23.50 Видимо-невидимо.

**ОРТ**
7.00 Х/ф «Груз без маркировки».
8.30 Слово пастыря.
8.45 Домашняя библиотека.
9.00 Новости.
9.15 Не зевай!
9.45 Утренняя почта.
10.20 Смак.
10.45 Возвращение Третьяковки.
11.10 Фильм «Пиковая дама».
12.45 Умники и умницы.
13.30 Под знаком «Пи».
14.00 Новости .
14.20 «Возвращение на Остров сокровищ».
15.10 «Окно в Европу».
15.40 В мире животных.
16.10 «Колесо истории».
17.00 Новости.
17.20 Ералаш.
17.45 Фильм «Верные друзья».
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
20.50 «Вьетнам. До востребования».
21.45 «Каламбур».
22.15 Фильм «Жюль и Джим».

**Канал «Россия»**
7.00 Лукоморье.
7.35 Мультфильм.
8.05 «Мак и Матли».
8.30 По вашим письмам.
9.00 Экспортлес.
9.15 Парламентская неделя.
10.00 Вести в одиннадцать.
10.15 Книжная лавка.
10.30 Доброе утро.
11.00 21-й кабинет.
11.25 Анонимные собеседники.
11.55 «Поэт в России – больше, чем поэт...»
12.25 Проще простого.
13.00, 19.00, 23.55 Вести.
13.20 «Тайна Сахары». С. 5.
14.15 Ничего, кроме...
14.30 Де факто.
14.55 Сад культуры.
15.25 Своя игра.
15.50 Песня России.
16.45 Старая квартира.
18.00 «Королева Марго». С. 14.
19.35 Субботний вечер с Зиновием Гердтом.
21.05 Погода на завтра.
21.10 Двойной портрет.
22.05 «Гарри Трейси». Х/ф.
0.10 Программа «А».

**Санкт-Петербург**
9.25 По реке плывет топор.
9.55, 11.55, 13.55, 15.55, 18.55 Информ ТВ.
10.10 «Честь имею».
10.40 «Столько чувства в напеве родном». Ф/к.
11.10 Ток-шоу «Наобум».
11.40 Страсти-мордасти.
12.10 «Человек-невидимка». Телеспект.
14.10 Еще одна Россия.
14.25 Усадьбы.
14.50 Мультфильм.
15.10 Спортивное обозрение.
15.25 Парадоксы истории.
16.10 Экспресс-кино.
16.35 Детское ТВ: студия «Вообрази».
17.00 Зебра.
17.35 Показывает ЛОТ.
18.40 Большой фестиваль.
19.20 «Риск без контракта». Х/ф.
20.40 «Браво, маэстро!»
20.55 Светская хроника.
21.10 Блеф-клуб.
21.45 Роман с героем.
22.15 «Крах инженера Гарина». С. 4.

**IV канал, НТВ**
7.00 Х/ф «Чудесные годы».
7.50 Х/ф «Смерть по кон тракту» С. 1.
8.40 Русский альбом. Группа «Колибри».
9.00, 13.00 Сегодня.
9.15 Х/ф «Альфредо, Альфредо».
10.55 Лучшие цирки мира.
11.25 Х/ф «В бегах».
13.15 Фестиваль мини-сериалов. «Тайные преступления».
15.25 Романса трепетные звуки.
15.45 Шаг из круга.
16.05 Информационное обозрение.
16.25 Ток-шоу «Карьера».
17.00 «Дети против монстров». С. 2.
17.30 Дог-шоу «Я и моя собака».
18.00, 21.00 Сегодня.
18.30 «Криминальная Россия: современные хроники». Д/ф.
19.00 Мини-сериал «Тайные преступления».
20.00 Намедни.
20.45 Куклы.
21.35 Х/ф «Сатирикон Феллини».
23.50 Третий глаз.
0.35 Ночной канал. «Плейбой».

## Нядзеля 27 кастрычніка

**Белорусское телевидение**
8.00 Колесо времени.
8.30 «Конон».
8.55 Победитель.
9.15 Студия «Колыбельная».
9.45 Вершина мира.
10.20 «Все нормально, мама!»
10.50 Туробъектив.
11.20 Марсово поле.
11.50 Международный курьер.
12.20 Мир природы и увлечений.
12.40 Премьер-кино.
13.25 Студия «Окно».
14.20 «Война в воздухе».
14.45 Вас вызывает Спортландия.
15.45 Мост.
16.10 Театр в кресле.
16.50 «Золотые ключи».
17.30 Х/ф «Карусель».
18.40 Компьютерный полигон.
19.05 Бездельник.
19.40 Колыбельная.
20.00 Резонанс.
20.50 Спортивный телекурьер.
21.10 Новости-ТВ.
21.25 Ток-шоу «Карамболь».
22.00 Х/ф «Галантные дамы».
24.00 Бархатный сезон.

**ОРТ**
7.00 Фильм-сказка «Третий принц».
8.25 Мультфильм «Волшебный магазин».
9.00 Новости.
9.15 «Непутевые заметки».
9.30 Пока все дома.
10.10 Утренняя звезда.
11.00 «Служу России!»
11.30 Играй, гармонь любимая!
12.00 Русскій міръ.
12.30 Сериал «Подводная одиссея команды Кусто».
13.25 Смехопанорама.
14.00 Новости .
14.20 Звезды оперы.
15.10 Клуб путешественников.
15.55 Как-то раз.
16.05 Мультфейерверк.
16.45 «Один на один».
17.20 Счастливый случай.
18.10 Песня-96.
19.00 Время.
19.40 КВН-96.
21.50 Футбольное обозрение.
22.20 Новости.
22.30 Фильм «Обратная тяга».

**Канал «Россия»**
7.00 Лукоморье.
7.30 Мультфильм.
7.50 Спортлото.
8.00 «Мак и Матли».
8.20 «За околицей».
8.35 Пилигрим.
9.00 Устами младенца.
9.30 Присяга.
10.00 Вести в одиннадцать.
10.15 Русское лото.
10.55 Приз группы «Савва».
11.00 Человек на земле.
11.30 Книжная лавка.
12.00 Телетеатр. А.П.Чехов. «Шампанское», «Разговор пьяного с трезвым чертом».
12.25 Проще простого.
13.00, 23.25 Вести.
13.20 «Тайна Сахары».
14.15 Ничего, кроме...
14.30 Диалоги о животных.
14.55 Караоке по-русски.
15.25 Экипаж кругосветного плавания.
15.55 Репортер.
16.10 Футбол без границ.
16.40 «У всех на устах».
17.00 Волшебный мир Диснея.
18.00 «Королева Марго». Х/ф.
19.00 Зеркало.
19.55 Погода на завтра.
20.00 Репортаж ни о чем.
20.15 «Спортлото-82». Х/ф.
21.55 «Колизей».
22.50 У Ксюши.
23.40 Прогулка с Иоганном Штраусом.

**Санкт-Петербург**
9.25 Папа, мама и я – Спорт.ивная семья.
9.55, 11.55, 13.55, 15:55, 18.55 Информ ТВ.
10.10 Овертайм.
10.40 «Необузданная Африка».
11.10 Храм.
11.40 Весь этот цирк.
12.10 «Музыкальная история». Х/ф.
13.30 «Военная музыка». Ф/к.
14.10 Еще одна Россия.
15.10 Солисты Мариинки.
16.10 Спортивная программа.
16.35 Детское ТВ: «Полосатая музыка», «Сказка за сказкой».
17.35 Показывает ЛОТ.
18.40 Сокровища Петербурга.
19.20 «Посвящение».
19.35 «Треугольник». Х/ф.
20.55 У всех на виду.
21.10 Ноу смокинг.
21.55 Международное обозрение.
22.20 «Посмотрим».
22.35 «Идеальная пара». Х/ф.

**IV канал, НТВ**
7.00 Х/ф «Чудесные годы».
7.50 «Смерть по контракту». С. 2.
8.40 Латиномания.
9.00, 13.00 Сегодня.
9.15 Х/ф «Плач невинного».
10.50 Лучшие цирки мира.
11.20 Х/ф «Девственность».
12.45 Русский альбом. Группа «Настя».
13.15 Мини-сериал «Тайные преступления».
14.00 Намедни.
14.40 Куклы.
15.25 Подъем переворотом.
15.55 «Бессмертный воин».
16.25 Забытые имена. Сергей Дягилев.
17.00 «Дети против монстров». С. 3.
17.30 «Сто к одному».
18.00 Сегодня.
18.30 «Человек в маске».
19.10 «Исчезнувшие цивилизации».
20.00 Итоги.
21.10 Х/ф «Король комедии».
23.00 Лучшие шоу и варьете мира. «Девушки Парижа».

## АФІША

### КАНЦЭРТЫ

У Канцэртнай зале філармоніі **18** кастрычніка Дзяржаўны сімфанічны аркестр РБ дае канцэрт з удзелам аўстрыйскай скрыпачкі Л.Шварнберг. У праграме творы Моцарта, Брамса, Абрыла, Равэля. **20** кастрычніка на галоўнай канцэртнай сцэне выступіць Народны аркестр імя Жыновіча, які прапануе публіцы народную музыку, творы класікаў і сучасных беларускіх кампазітараў. Філарманічная афіша абяцае нам таксама выступленні найбольш папулярных у Беларусі музычных калектываў — на **21** кастрычніка прызначаны канцэрт студыі «Сябры», а **22** кастрычніка новую праграму «Гарманісты» прадставіць ансамбль народнай музыкі «Свята». **23** кастрычніка філармонія запрашае наведаць канцэрт знакамітай Марыі Біешу, які адкрывае Дні культуры Малдовы ў Беларусі.

Зала камернай музыкі **18** кастрычніка прадстаўляе заслужанага артыста Беларусі Івана Краснадубскага (барытон). Ён выканае арыі, рамансы, песні беларускіх кампазітараў. Аматарам старадаўняй духоўнай музыкі прапаную наведаць канцэрт ансамбля «Чыстыя галасы», які адбудзецца **21** кастрычніка. **22** кастрычніка ў Зале камернай музыкі вечарына аргана. Выканаўца Д.Зарэцкі (С.-Пецярбург), а **24** кастрычніка сваім вакальным майстэрствам вас парадуе італьянская спявачка Глорыя Дзі Джузэпантонія.

Аўтар вядомага хіта «Сумны беларускі блюз» ды іншых добрых песень Віктар Шалкевіч выступіць з канцэртам у памяшканні музея Максіма Багдановіча **23** кастрычніка. Пачатак а 19-й гадзіне.

Канцэртная зала «Мінск», дзе звычайна выступаюць эстрадныя «зоркі», на гэтым тыдні прапануе далучыцца да класікі: на **18** кастрычніка абвешчанае выступленне зорак расійскага балета — цэлы ансамбль салістаў Вялікага тэатра Расіі, лаўрэатаў ды заслужаных артыстаў выступіць у праграме, якая складаецца з фрагментаў вядомых спектакляў — «Лебядзінае возера», «Кармэн-сюіта», «Жызэль», «Дон Кіхот» а таксама шэрагу балетных мініяцюр. Мінскім балетаманам гэты канцэрт дасць магчымасць паглядзець на вядомых майстроў, а таксама суцешыць свой сум па беларускай балетнай трупе, якая цяпер знаходзіцца на гастролях і вернецца толькі ў канцы кастрычніка. Праўда, кошт квіткоў па кішэні не кожнаму тэатралу — ад 80 да 200 тысяч (гэта ў 5—10 разоў даражэй за квіткі на спектаклі мінскага Тэатра оперы і балета).

### ТЭАТРЫ

Тэатр імя Янкі Купалы **19** кастрычніка пакажа «Страсці па Аўдзею», **20** — «Лес», **21** — «Паехалі!..», **23 і 24** — «Ромул Вялікі». На малой сцэне **19** кастрычніка — «Смех лангусты», **20** — «Віват, імператар!». Дзецям купалаўцы прапануюць ранішні спектакль **20** кастрычніка «Пунсовая кветачка».

У Рускім тэатры **18** кастрычніка «Букееў і кампанія», **19** — містэрыя «Блаславі нас, Божа», **20** — «У будучым годзе, у гэты ж час», **22** кастрычніка на малой сцэне — «Вячэра», **23** — «Хто твой каханак, Жазэфа?», **24** — «Адзіны спадкаемца». Раніцай у нядзелю, **20** кастрычніка, для дзяцей пройдзе казка «Жылі былі дурні».

Оперны тэатр прапануе **19** кастрычніка «Севільскі цырульнік», **20** — дзіцячы мюзікл «Пітэр Пэн» (ранішні спектакль), **22** кастрычніка адбудзецца вечар старадаўняга раманса, **24** пройдзе «Тоска».

**22** кастрычніка на імпрэзу «Скарпіён» паводле Л.Андрэева публіку запрашае Малы тэатр, які пакуль не мае свайго памяшкання (спектакль адбудзецца на Малой сцэне тэатра імя Янкі Купалы).

### КІНАКЛУБ

У кастрычніку аматарам кіно выпадае рэдкая магчымасць адпачыць ад амерыканскай прадукцыі ў кінаклубе, які ў памяшканні Палаца культуры прафсаюзаў прадстаўляе чарговую рэтраспектыву французскіх фільмаў. Праграма называецца «Францыя вачыма...» і пабудаваная па даволі цікавым прынцыпе: публіцы прапануюць спецыяльна падабраныя работы вядомых кінарэжысёраў гэтай краіны, якія паказваюць Францыю ў кожнае дзесяцігоддзе з 1915 г. па 1990-я гады з характэрнымі для кожнага часу прыкметамі штодзённага жыцця. **18** кастрычніка (сеанс у 21:00) пройдзе займальная гісторыя кахання «Антуан і Антуанэта» (1947, рэж. Жак Бекер), **19** кастрычніка (у 15:00 на французскай мове без перакладу, у 21:00 з перакладам) і **23** кастрычніка (21:00) вы можаце ўбачыць «Вайну гузікаў» (1962, рэж. Іў Рабэр) — адну з самых любімых камедый французаў, у якой адну з сваіх першых роляў выканаў П'ер Рышар. **20** кастрычніка (21:00) — фільм «Боб-марнатравец» (1956, рэж. Жан-П'ер Мельвіль) прыадкрые вам таямніцы Манмартра і яго багемных насельнікаў. **24** кастрычніка (21:00) пройдзе «Мы не будзем старэць разам» (1972, рэж.Марыс Піяла) — меладрама з сямейнага жыцця, у свой час вельмі папулярная ў Францыі.

**Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ**

## РЫНОК

***Сегодня мы начинаем публикацию серии материалов о рынке недвижимости в Беларуси. Профессиональный риэлтер расскажет о самых различных аспектах этого бизнеса.***
***Сегодняшний разговор о том, что следует знать людям, решившим обменять, продать, купить либо построить квартиру или дом.***

# Как формируется цена квартиры

По моему личному мнению, Минск — не самый лучший город для комфортного проживания. Наша столица характеризуется большим количеством так называемых спальных районов, где условия располагают только к тому, чтобы прийти домой, посмотреть телевизор и завалиться спать. В таких районах нет бытовой и социальной инфраструктуры: в химчистки, прачечные, кинотеатры, кафе, дискотеки люди вынуждены ездить в центр.

Минск застраивался частями, поэтому у нас в чистом виде практически нет такого понятия, как престижный район — повсеместно высокий стандарт жилья перемешан со средним и даже низким уровнем. Иными словами, у нас есть отдельные элитные дома, но почти нет элитных районов. Например, в довольно престижном, «номенклатурном» районе улицы Пулихова качественные дома и квартиры находятся рядом с пятиэтажными «хрущевками» (ул. Ивановская и Андреевская), а какой в них уровень «комфорта» — известно всем.

На рыночную цену квартиры в Минске влияют прежде всего следующие факторы:

**1. Месторасположение.** Минск условно можно поделить на 3 типа районов. Первый — центр и прилегающие к нему кварталы. Второй — достаточно обжитые и более-менее благоустроенные спальные районы — Юго-Запад, Запад, Серебрянка, Уручье, Веснянка и т.д. Третий — современные новостройки — Уручье, Малиновка, Сухарево, Красный Бор.

**2. Тип дома.** На рынке жилья сегодня присутствуют 5 типов домов.

Во-первых, сталинский — 40-50-е годы: просторные комнаты и кухни, высокие потолки. Квартиры тут по-прежнему одни из самых дорогих, однако многие покупатели уже начинают учитывать преклонный возраст этой недвижимости. К тому же строящиеся частными фирмами современные квартиры порой даже превосходят качеством сталинские, так что у богатых и притязательных покупателей появляется приличная альтернатива. Тем не менее по-прежнему остаются принципиальные любители именно этого типа жилья.

Во-вторых, «хрущевки». Цена их остается стабильной, причем стабильно низкой. В наше время в них живут те, у кого нет иного выбора. Третий и четвертый типы — традиционные советские постройки, и разница определяется исключительно строительным материалом — панельные дома и кирпичные. Цена квартиры в кирпичном доме в среднем на 5-7% выше — прежде всего потому, что они считаются более теплыми и удобными. Впрочем, если смотреть на более отдаленную перспетиву, кирпичные дома менее подвержены амортизации основных конструкций, то есть более долговечны. И, наконец, в особый (пятый) тип можно выделить современные кирпичные дома, в которых обычно строят квартиры повышенной комфортности, часто с учетом индивидуальных пожеланий жильцов.

**3. Внутренняя планировка квартиры.** Всё больше решающее значение для покупателя имеет метраж нежилых помещений, прежде всего кухни и коридора (прихожей). Резко снижают стоимость жилья на нашем рынке маленький совмещенный санузел и смежные комнаты. С другой стороны, значительно выше ценятся квартиры, выполненные в двух уровнях.

**4. Социальный состав жильцов дома.** Например, четырехкомнатная квартира на той же улице Пулихова, где контингент жильцов довольно высок по социальному положению и однороден, примерно на 10—15% дороже аналогичной квартиры на проспекте Машерова, где такое жилье выделяли многодетным семьям, не всегда отличающимся бытовой культурой и чистотой. Обычно покупатель заранее узнает о своих потенциальных соседях, и если они пьяницы либо дебоширы, то может отказаться от покупки или обмена.

Следующими формирующими цену факторами являются наличие телефона и разветвленной сети транспорта. Экологические проблемы не выглядят в Минске определяющими, хотя, конечно, желающих жить в Чижовке и Шабанах немного.

В следующем материале мы расскажем о реальной стоимости квартир в разных районах Минска и дадим прогноз развития ценовой ситуации.

**Дмитрий ЧИКУНОВ,**
*директор агентства недвижимости «Славянский стиль»*

## Справа Кебіча

**Ва ўпраўленні ўнутраных справаў Мінска ўзбуджаная крымінальная справа, дзе фігуруе ўсім вядомае прозвішча — Кебіч.**

Але па справе праходзіць не сам былы прэм'ер, а малодшы сын Вячаслава Францавіча — Алег. Яму 24 гады, па адукацыі ён эканаміст, працуе ў камерцыйнай фірме «TEF».

13 кастрычніка ў 2:30 ночы Кебіч-малодшы, кіруючы аўтамабілем *BMW-525* (дзяржнумар 41-42 КС), учыніў наезд на 17-гадовую Наталлю Галоцік, студэнтку 1 курса журфака БДУ. Іншамарка не ўпісалася ў паварот на плошчы Перамогі і ўрэзалася прама ў Наталлю, якая ў той час сядзела на парапеце разам з дзвюма аднакурсніцамі. Дзяўчыну адвезлі ў бальніцу хуткай дапамогі, і, каб выратаваць ёй жыццё, медыкі вымушаныя былі ампутаваць левую нагу.

Як паведаміў карэспандэнту СВАБОДЫ начальнік следчага ўпраўлення УУС г.Мінска Валеры Чарноў, мера стрымання да А.Кебіча яшчэ не прымалася, бо праводзіцца праверка па факце здарэння. У прыватнасці, не выключана, што ў *BMW* заклініла сістэму рулявога кіравання. Тым не менш, СВАБОДЗЕ стала вядома, што першапачатковыя вынікі медыцынскіх аналізаў паказалі: у арганізме А.Кебіча на час здарэння ўтрымлівалася павышаная колькасць алкаголю.

**Валодзя ЯНЧУК**

## Стряляў у дэпутата. І не толькі

**Дзесяць супрацоўнікаў Савецкага райаддзела міліцыі г.Мінска, арыштаваныя на мінулым тыдні, абвінавачваюцца ў рабаўніцтве, крадзяжах і іншых злачынствах.**

Цікава, што ў гэтую злачынную групу ўваходзіў і сяржант Карповіч — той самы, які ўвечары 13 чэрвеня абстраляў з аўтамата машыну дэпутата Віктара Ганчара. Па той справе, якую расследуе гарадская пракуратура, Карповіч праходзіў як адзін з галоўных сведкаў. Нам вядома, што ён даў даволі цікавыя паказанні, у прыватнасці, назваў асобаў, якія далі яму загад адкрыць агонь па машыне В.Ганчара.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Суд адмовіў генералу

**У лідскай раённай газеце быў змешчаны артыкул, у якім выкрываліся факты раскрадання дзяржаўнай маёмасці з боку вайскоўцаў расійскай ракетнай часці.**

У прыватнасці, гаварылася пра тое, што ў перададзенай СШ № 2 спартовай зале былі павыдзіраныя вокны, дзверы і нават вагонка са столі ды дошкі з падлогі.

Камандзір часці генерал Іванцоў пасля гэтага вельмі пакрыўдзіўся і звярнуўся ў гарадскі суд. Свае гонар і годнасць расійскі генерал ацаніў у 10 млн. рублёў — праўда, беларускіх. Пасля праверкі суд прызнаў, што прыведзеныя ў артыкуле факты адпавядаюць сапраўднасці, і таму мусіў адмовіць генералу.

**Алесь КАСТРАВІЦКІ**

## Кран не вытрымаў напору

**На радзіме прэзідэнта, каля вёскі Александрыя Шклоўскага раёна, адбылася аварыя.**

У ноч з 11 на 12 кастрычніка з прадуктаправода, які належыць Мазырскаму ўпраўленню магістральных трубаправодаў, выцекла 350 т саляркі. Забруджана каля 2 га зямельных угоддзяў калгаса «Дняпроўскі». Страты склалі звыш 6 млрд. рублёў.

Аварыя здарылася па віне невядомых зламыснікаў. Яны зрабілі падкоп на глыбіню 2 м, прасвідравалі ў трубе дзірку і ўставілі кран, праз які кралі дызельнае паліва. Аднак саматужнае прыстасаванне не вытрымала ціску ў 50 атмасфер — і кран вырвала. Следствам устаноўлена, што калі невядомыя ўрэзваліся ў магістраль, ціск у трубах быў зніжаны да мінімальных параметраў. Гэта дае падставы меркаваць, што злачынцы мелі доступ да кампрэсарнай падстанцыі.

Дарэчы, з пачатку 1996 года гэта ўжо 25-ты выпадак крадзяжу гаручага з прадуктаправодаў.

**Аляксандр ШЧАРБАК**

## Міліцэйскі рапарт

**Як паведаміла прэс-служба ўпраўлення ўнутраных справаў г.Мінска, з пачатку 1996 г. у сталіцы зарэгістравана больш за 16,5 тыс. злачынстваў, у тым ліку крымінальных — 11.992.**

Пры гэтым адзначаецца, што ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года лічба зменшылася на 4,6%, а вось эканамічных злачынстваў выяўлена на 10,6% больш. Напрыклад, міліцыя выкрыла 97 незаконных здзелак з каштоўнымі металамі і камянямі на суму звыш 326 млрд. рублёў. Канфіскаваная рэкордная колькасць фальшывых грошай: 61,4 тыс. долараў, 3,6 тыс. нямецкіх марак, 64,5 млн. расійскіх і 340 тыс. беларускіх рублёў.

Акрамя таго, у злачынцаў канфіскаваны цэлы арсенал зброі: 198 адзінак агнястрэльных ствалоў, 128 — газавых, 2,8 тыс. патронаў і 5 гранат. Мінская міліцыя канстатуе, што на вуліцах сталіцы пабольшала п'яных. На добрым падпітку затрымана ажно 102,2 тыс. чалавек, з іх амаль 13 тыс. давялося транспартаваць у медвыцвярэзнік. За розныя парушэнні, звязаныя з ужываннем алкаголю, прыцягнута да адказнасці 3.913 непаўналетніх, з іх 991 падлетак пастаўлены на ўлік у наркалагічных кабінетах.

**Валодзя ЯНЧУК**

## Шмат страляніны без прычыны

**У Гродне на вул.Кастуся Каліноўскага міліцыя вырашыла спыніць *Volkswagen Passat*.**

Аднак шафёр быў п'яны і таму пабаяўся спыніцца. У міліцыянтаў гэта выклікала законнае падазрэнне, і яны пачалі страляць. Шафёр спалохаўся, што яго застрэляць — і паехаў яшчэ хутчэй. Машына спынілася толькі пасля таго, як міліцыянты прастрэлілі тры колы. Высветлілася, што шафёр не мае ані зброі, ані кантрабанды, ані наркотыкаў. «Аперацыя па затрыманні» каштавала нямала: у паветра было выпушчана 18 патронаў і яшчэ 28 — па колах аўтамабіля.

**С.М.**

## Дэльтаплан падвёў

**Днямі ў Іванаўскім раёне Брэсцкай вобласці здарыўся незвычайны выпадак.**

Падчас аблёту мясцовасці пацярпеў аварыю дэльтаплан. На трохкутным крыле ляцелі інструктар Брэсцкага аэраклуба і старшыня Іванаўскага райспажыўсаюза. Кіраўнік раённай спажывецкай кааперацыі планаваў скарыстаць дэльтаплан для рэкламы кірмаша «Залатая восень». Аднак нечакана ў канструкцыі машыны нешта сапсавалася, і дэльтаплан абрынуў проста на аўтамабіль «Жыгулі», які рухаўся па трасе Брэст—Іванава. У выніку пілот, пасажыр дэльтаплана і дзяўчынка, якая знаходзілася ў салоне легкавіка, трапілі ў бальніцу.

**Анатоль МІРСКІ**

ПАРАДЫ

## Каб спіна не балела

**Вось ужо другі месяц кожны першакласнік цягае ў школу цяжкі ранец або партфель. Мала хто задумваецца, што такім чынам шасцігадовае дзіця зарабляе сабе хваробы спіны, якія раней ці пазней праявяцца.**

Празмерны цяжар падручнікаў, сшыткаў, зменнага абутку і спартовай формы — гэта не першая і, на жаль, не апошняя шкода здароўю дзіцяці. Калі акрэсліць прычыну хвароб хрыбта адным словам, то будзе яно вельмі простым — няведанне. Менавіта праз няведанне анатоміі і фізіялогіі арганізму робім мы большасць памылак.

Хрыбет — вось нашага цела, і дбаць пра яго належыць ад самага нараджэння маленькага чалавека. Натуральная пазіцыя немаўляці — гарызантальная. Да трэцяга месяца жыцця ўвогуле нельга трымаць дзіця вертыкальна: галава залішне цяжкая ў адносінах да ўсяго цела, і маладзенькія несфармаваныя косці не могуць вытрымаць такой нагрузкі. Бацькі часта гушкаюць дзіця, трымаючы пад пахі, немаўлятам падабаецца, калі тата або мама падкідвае іх ледзь не да столі — але пры гэтым рэзка змяняецца вертыкальная нагрузка на хрыбет, што потым, у падлеткавым веку, можа прывесці да парушэнняў росту. Таму трэба добра памятаць: калі мы бярэм немаўля на рукі, нельга трымаць яго вертыкальна. Па гэтай самай прычыне не рэкамендуецца ўжываць ніякіх насілак, ранцаў, сядзячых гушкалак, пакуль дзіця само (а тут прырода не памыляецца) не пачне трымаць галоўку і садзіцца. Часта бацькі непакояцца, што іхняе дзіця доўга не ўстае на ножкі і стараюцца дапамагчы яму ў гэтым — выкарыстоўваючы розныя хадункі, манежы, падпоркі ў ложку. Гэта яшчэ адна памылка. Мяккія несфармаваныя косці дзіцяці пад уздзеяннем такіх фізічных практыкаванняў дэфармуюцца і ў старэйшым веку могуць праявіцца дэфекты паставы.

Медыкі-артапеды сцвярджаюць, што найлепшай натуральнай падрыхтоўкай да стаяння і хаджэння з'яўляецца так званы «карачкавы» перыяд. Ні ў якім разе нельга прыспешваць час — няхай дзіця стаіць і поўзае на карачках столькі, колькі хоча. У гэты перыяд развіваюцца і ўзмацняюцца хрыбтовыя мускулы, якія пасля будуць падтрымліваць прамую, прыгожую і здаровую паставу. Гэты працэс павінен быць як мага больш натуральны, і розныя хітрыя прыстасаванні, якія даюць палёгку бацькам, адназначна шкодзяць малому.

Увесь час, пакуль дзіця расце, бацькі павінны забяспечваць яму «натуральныя» ўмовы. Нельга, каб адзенне абмяжоўвала рухі, абутак павінен мець мяккую, эластычную падэшву, а нагрузка на хрыбет абавязкова мусіць адпавядаць фізічным магчымасцям. У прыватнасці, школьная парта і стол, за якім вашае дзіця робіць хатнія заданні, павінны быць такой вышыні, каб не трэба было схіляцца над імі. Максімальна дапушчальная вага школьнага ранца — 10% масы цела, гэта значыць, што партфель першакласніка не можа важыць больш за 3 кг. І пры гэтым галоўны прынцып — як мага больш руху.

Адзін з самых небяспечных перыядаў у жыцці чалавека — так званы скачок росту. У дзяўчынак ён звычайна пачынаецца на 12-м годзе жыцця, у хлопчыкаў — на два гады пазней. У гэтым веку вельмі небяспечна падымаць цяжар, займацца такімі відамі спорту, як цяжкая атлетыка, барацьба, скачкі на батуце. Самы лепшы спорт для падлеткаў — плаванне, якое спрыяе гарманічнаму развіццю ўсіх групаў мускулатуры.

**Магдалена НЕПАКАЙ**

СПОРТ

## Загад – ачысціць Захад!

### ХАКЕЙ: ЕЎРОПА — У НАВАПОЛАЦКУ, «ПАЛІМІР» — У ЕЎРОПЕ

Чэмпіёны Беларусі хакеісты наваполацкага «Паліміра» занялі другое месца ў чвэрцьфінальным турніры Кубка Еўропы, які прайшоў якраз у Наваполацку. Разграміўшы эстонскі «Крэнгольм» з Нарвы — 19:1, нашыя саступілі тарпедаўцам з казахскага Усць-Каменагорска — 2:4. Але і гэтага аказалася дастаткова для выхаду ў паўфінал, які адбудзецца праз месяц у Фінляндыі. Праціўнікамі навапалачан будуць фінскі ХПК, англійскі «Шэфілд Стылерс» і нарвежскі «Сторхамар».

### ЧЭМПІЯНАТ У.Е.Х.Л.

Тым часам «Палімір» пакуль не ведае праблем у чэмпіянаце Усходнееўрапейскай хакейнай лігі. Сітуацыя ў табліцы трохі заблытаная, бо каманды правялі неаднолькавую колькасць матчаў.

| | Г | А |
|---|---|---|
| 1. «Палімір» (Наваполацк) | 8 | 16 |
| 2. «Цівалі» (Мінск) | 10 | 15 |
| 3. «Алімпія» (Польшча) | 10 | 13 |
| 4. «Нёман» (Гродна) | 6 | 8 |
| 5. «Сокал» (Кіеў) | 4 | 8 |
| 6. «Ільдзінка» (Кіеў) | 8 | 5 |
| 7. «Юнацтва» (Мінск) | 8 | 3 |
| 8. «Юніёрс» (Рыга) | 6 | 0 |
| 9. «Энергія» (Электрэнай) | 8 | 0 |

### У NHL УСЁ НЕ ТАК

Чэмпіянат Нацыянальнай хакейнай лігі з самага пачатку падараваў сюрпрызы заўзятарам. Уладальнік Кубка Стэнлі-96 «Каларада» пасля 5 матчаў мае толькі 5 ачкоў, фіналіст 1995 г. «Дэтройт» — 4 пасля 4 гульняў, каманда Марыё Лем'ё — «Пітсбург» — толькі 2 пасля чатырох гульняў. Затое «Далас», які раней мала чым вылучаўся, пяць разоў перамог сваіх праціўнікаў і не згубіў пакуль ніводнага ачка. У стартавых матчах удзельнічаў беларускі абаронца Руслан Салей («Анахайм»).

### ГАНДБОЛ: НЕПАСЛУХМЯНЫ МЯЧ

Беларускія клубы правялі першыя матчы 1/16 фінала чатырох еўракубкавых турніраў і пацярпелі поўны правал: у 10 гульнях — 10 пройгрышаў. У Кубку чэмпіёнаў мінскі СКА мінімальна саступіў у Аўстрыі «Лінцу» —18:19. У Кубку кубкаў СКАФ-РШВСМ (Мінск) двойчы прайграў у Італіі сіцылійскаму «Артыджыя» — 26:35, 16:26. Таксама ў гасцях, але ў Іспаніі, мінскі «Аркатрон» у рамках Кубка ЕГФ быў разбіты клубам «Актавіё» з Віга — 26:36 і 17:29. Нарэшце, гомельскі «Універсітэт», выступаючы ў Кубку гарадоў, быў двойчы пераможаны ў Пльзене (Чэхія) «Ковапетралем» —15:28, 16:28.

У дзяўчат — тая самая гісторыя. Гандбалісткі мінскага «Політэхніка» дома не змаглі як належыць процістаяць «Монтэксу» з польскага Любліна — 23:31. Малаверагодна, што ў наступным матчы ў адказ сітуацыя зменіцца. А гомельскі «Універсітэт» ужо вылецеў з Кубка кубкаў пасля двух паражэнняў у Даніі ад «Фрэдрыксберга» — 19:37 і 20:36.

Як бачым, толькі СКА мае яшчэ добрыя шанцы на пераадоленне «аўстрыйскага бар'ера».

Беларускі гандбол пакуль не такі слабы, як гэта можа падацца з названых вынікаў. У мацнейшых клубах Нямеччыны і Іспаніі выступаюць Андрэй Барбашынскі, Аляксандр Тучкін, Генадзь Халепа, Андрэй Клімавец, Андрэй Сіняк, Міхаіл Якімовіч, Андрэй Парашчанка. Не адстаюць і дзяўчаты. За мяжой гуляюць Чыбангу, Чарнеўская, Брамянкова, Ціхановіч. Няма сумнення, яны не далі б нашыя клубы ў крыўду, але жыццё пагнала іх шукаць шчасця на чужыне.

Аналагічная сітуацыя ў баскетболе, валейболе, футболе, настольным тэнісе. Між тым прэзідэнт Лукашэнка, выступаючы на форуме спартыўнай грамадскасці Беларусі ў мінулы аўторак, катэгарычна загадаў міністру спорту Уладзіміру Рыжанкову вярнуць усіх легіянераў на радзіму. Цікава, у якіх вымярэннях жыве прэзідэнт? Можа, падрыхтоўка да футбольна-палітычнай паказухі не дала яму магчымасці рэальна ацаніць сітуацыю ў спорце? Але ж загад чулі многія, так што застаецца толькі паспачуваць Рыжанкову.

### ФУТБОЛ: ЛІГА ЧЭМПІЁНАЎ

Група *A*: «Рапід» (Аўстрыя) — «Ювэнтус» (Італія) — 1:1, «Фенербахчэ» (Турцыя) — «Манчэстэр Юнайтэд» (Англія) — 0:2; **1.** «Ювентус» — 7 ачкоў, **2.** «Манчэстэр» — 6, **3.** «Рапід» — 2, **4.** «Фенербахчэ» — 1.

Группа *B*: «Атлетыка» (Іспанія) — «Барусія» (Дортмунд, Германія) — 0:1, «Сцяўа» (Румынія) — «Відзэў» (Польшча) — 1:0. **1.** «Барусія» — 9, **2.** «Атлетыка» — 6, **3.** «Сцяўа» — 3, **4.** «Відзэў» — 0.

Группа *C*: «Аякс» (Галандыя) — «Глазга Рэйнджэрс» (Шатландыя) — **4:1**, «Асер» (Францыя) — «Грасхоперс» (Швейцарыя) — 1:0, **1.** «Аякс» — 6, **2.** «Грасхоперс» — 6, **3.** «Асэр» — 6, **4.** «Глазгоў Рэйнджэрс» — 0.

Группа *D*: «Русенборг» (Нарвегія) — «Порта» (Партугалія) — 0:1, «Гётэборг» (Швецыя) — «Мілан» (Італія) — 2:1, **1.** «Порта» — 9, **2.** «Мілан» — 3, **3.** «Русенборг» — 3, **4.** «Гётэборг» — 3.

### ХРОНІКА: У НЕТРАХ МАФІІ

Генеральная пракуратура Расіі пачала расследванне па заяве былога старшыні Нацыянальнага фонду спорту Барыса Фёдарава, які сцвярджае, што былы шэф службы бяспекі прэзідэнта Расіі Аляксандр Каржакоў вымагаў ад яго 40 млн. долараў. Фёдараў не паддаўся — і стаўся калекам, атрымаўшы 12 нажавых ран. Відаць, нейкую сувязь з усім гэтым мае і звальненне з пасады старшыні Дзяржкамспорту Расіі Шаміля Тарпішчава — сябрука Каржакова. Спартыўна-палітычны дэтэктыў разгортваецца...

**Сямён ПЛОЦ**



Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Internet: http:\\www.gis.minsk.by © СВАБОДА Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 90.000 (1-шы завод — 49.250)
Нумар падпісаны ў друк 17.10.96 (15.00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 215 Заказ 2622